*На прастор, на шырокі разлог*
*Выходзі, мой народ, грамадою...*

**Якуб Колас**

**№ 2 (124)**

4 студзеня 1997 г.

Выдаецца
на беларускай і рускай мовах

Кошт у кіёсках і крамах — 1500 руб.
у індывідуальных гандляроў — свабодны.

# Народная Воля




# Хотите иметь комфортабельную семейную усадьбу? Едьте на село...

**Как сообщили корреспонденту вестника БЕЛТА "В кабинетах власти" в Минстройархитектуры, Беларусь стоит на пороге массового строительства жилых домов нового поколения для сельчан.**

В минувшем году на территории республики сооружены два комплекса усадебных жилых домов нового поколения: в деревне Вышедки Городокского района Витебской и деревне Рекутевщина Молодечненского района Минской областей. Создание домов усадебного типа улучшенной планировки велось с применением отечественных строительных материалов и конструкций повышенного качества. Использование усовершенствованного инженерного оборудования, а также внедрение новейших конструкторских разработок позволили провести весь комплекс строительно-монтажных работ в рекордно короткие сроки.

Следуя единодушному совету экспертов, опыт возведения жилья повышенной комфортности для сельчан в Витебской и Минской областях рекомендовано использовать в других регионах республики. Ставя перед собой эту кардинальную цель, специалисты Министерства архитектуры и строительства разработали проект "Программы экспериментального и образцово-показательного строительства усадебного жилья". Он нацеливает на возведение в каждой области разнообразных ресурсо- и энергосберегающих усадебных жилых домов, а также переход к массовому строительству комфортабельного жилья усадебного типа с применением в основном отечественных строительных материалов и технологий.

В 1997 году предусматривается в каждой области Беларуси соорудить комплекс жилых домов из восьми-десяти усадеб. Финансирование этого планового строительства будет проводиться в рамках реализации Указа президента Республики Беларусь "О некоторых мерах по развитию жилищного строительства на селе" за счет выделения кредитов сроком на 40 лет.

**Лариса НЕКРАСОВА.**
**(Вестник БЕЛТА "В кабинетах власти".)**

**Открытое письмо**

# Почему мы находимся "между небом и землей"?

Уважаемая редакция газеты "Народная воля"! По поручению жителей военного городка Мачулищи хотим обратиться еще раз к президенту Республики Беларусь Александру Григорьевичу Лукашенко.

Критическое положение, в котором мы оказались, вызывает сострадание всех честных людей.

С 1 июня 1996 года городок должен был попасть "под крыло" Минского облисполкома, но решение не выполнено, и мы по-прежнему находимся "между небом и землей".

Не выполняется Указ президента N 695 от 2 октября 1996 года о передаче военного городка Минской области. А это нас обрекает на дальнейшие мучения. Идет полное попрание прав человека.

Нас не берут на работу в г.Минске. В бюро занятости состоят женщины от 30 лет и старше, имеющие высшее и среднеспециальное образование.

Городок пришел в упадок: ветшают дома, дороги разбиты, требуют ремонта коммуникации. В городке нет элементарных бытовых условий.

Мы лишились нормальных связей со столицей республики.

Управление Белорусской железной дороги без предупреждения отменяет электропоезда даже в рабочее время. А после 21 часа 59 минут вообще нет возможности добраться до Мачулищ студентам и работающим в вечернее время. Мы обращались в Кабинет министров, приемную Министерства обороны, Управление Белорусской железной дороги, но получили одни отписки.

Мы, жители в/г N 92 Мачулищи, требуем:

1. Определить статус городка, создать постоянный орган власти, обеспечить его финансирование.

2. Решить вопрос о трудоустройстве жителей городка в г.Минске.

3. Управлению Белорусской железной дороги в ближайшее время обеспечить нормальное транспортное обслуживание жителей городка. Открыть маршрут Минск—Руденск с отправлением из г.Минска в 23.00 часа.

4. От президента требуем решительных действий по выполнению ранее принятых указов.

Приглашаем президента посетить городок и ознакомиться с социально-бытовыми условиями жизни бывших, настоящих и будущих защитников Родины, которые дошли до последней черты бедности.

**По поручению жителей в/г N 92 Мачулищи**
**Р.А.ЗАЛИВАЦКАЯ.**

**Письмо простого человека**

# Я не против нормальных отношений с русским народом, но у меня подрастают два сына...

Хотелось бы обратиться ко всем подписчикам "Народной воли". Прочитав газету, дайте почитать ее родственникам, друзьям, знакомым и просто незнакомым людям. Ведь только имея информацию из разных источников (не только со страниц государственных изданий), человек может правильно сориентироваться в ситуации.

Уже сейчас всем здравомыслящим людям надо готовиться к очередному "референдуму". Ведь можно спрогнозировать дальнейшее развитие событий. Успешно похоронив экономику Беларуси, тем, кто сегодня у власти, захочется в очередной раз отвлечь внимание населения от острых проблем. Не исключено, что очередным шагом "батьки" будет вопрос об объединении с Россией. Я не против нормальных отношений с русским народом. Но у меня подрастают два сына. И я не хочу, чтобы их постигла участь молодых, так и не успевших насладиться, данной Богом жизнью молодых 18—20-летних ребят, погибших в Афганистане, Таджикистане, Чечне...

Уважаемые редактор и журналисты "Народной воли"! Какие бы препятствия не чинили власти изданию и распространению нашей газеты — не сдавайтесь! И мы, ваши подписчики, поддержим вас.

С уважением —

**Моисей МАЗЬКО,**
**рабочий-строитель, 40 лет.**
г.Брест.

**Ведаеце?**

# Пазьняк і Навумчык адхаласцякавалі...

Калядныя святы і Новы год беларускія эмігранты трэцяй хвалі — Зянон Пазьняк і Сяргей Навумчык, адзначаць разам са сваімі палавінамі. Нарэшце лідэры БНФ сустрэліся з жонкамі, якіх не бачылі з таго дня, як пакінулі Беларусь.

Галіна Вашчанка перасякла акіян і ўзрадавала Зянона Станіслававіча сваім з'яўленнем у ЗША. А сямейная пара Навумчыкаў сустрэлася ў Еўропе, куды да жонкі ў Прагу прыехаў Сяргей. Не выключана, што ў сталіцы Чэхіі, дзе яны плануюць пражыць некалькі месяцаў, Навумчыкі і сустрэнуць Новы год.

**Марыя НАРЭЙКА.**

**Красамоўны факт**

# Слёзы і грошы пенсіянеркі

Цікавы факт паведамілі кіраўнікі Беларускай сацыял-дэмакратычнай партыі на сваёй прэс-канферэнцыі. У іхнюю штаб-кватэру завітала старэнькая пенсіянерка. Вочы ў слязах. Звяртаючыся да прысутных, сказала:

— Даруйце нам, сыны, за тое, што мы зрабілі са сваёй Беларуссю.

Затым яна працягнула 20 тысяч, якія адарвала ад сваёй мізэрнай пенсіі і перадала іх для падтрымкі тых, хто трапіў пад рэпрэсіі.

Ці хутка наступіць "отрезвление" іншых пенсіянераў?

**Вадзім АНТАНОВІЧ.**

# Вы не успели подписаться на "Народную волю"?

Не огорчайтесь. Если хотите получать газету со следующего месяца — загляните в любое почтовое отделение или в любой пункт подписки до 10 января.

В Минске подписку оформляют также все пункты и киоски "Союзпечати".

***"Народная воля" рада встрече с Вами!***

**Сябру – у Год Быка**

# Пажаданне

*Блукае ў цемры*
*час-вандроўнік,*
*Ці, можа, проста жартаўнік?..*
*Адкажа беларускі слоўнік,*
*Ці варты ты, як вартаўнік,*
*Яго здабыткаў мімавольных,*
*Яго пяшчоты і тугі...*
*Хай толькі слоўнік будзе*
*вольны!*
*Хай будуць вольнымі сцягі!*
*Хай толькі крочым мы па волі.*
*Павер, што гэтага даволі...*

*Хто ж паспрабуе збіць*
*з дарогі,*
*Няхай адчуе гэты рогі...*

**Сяргей ВАГАНАЎ.**



# Анатолю Майсені сёння споўнілася б толькі 38!



**Ужо 53 дні яго няма сярод нас. Якога вялікага чалавека, самабытнага журналіста, палітыка, вучонага згубіла Беларусь — высвеціць час. А сёння яго дзень нараджэння. Успомнім Анатоля, схілім галаву перад яго памяццю. Фотакарэспандэнт Уладзімір Кармілкін прадставіў "Народнай волі" здымак, які сведчыць аб страснай натуры А. Майсені (ён перад мікрафонам). Здымак зроблены падчас аднаго з мітынгаў.**

**Родная сястра Анатоля Майсені расказвае пра нялёгкае жыццё брата, вытокі яго таленту, яго марах і спадзяваннях.**

*Людміла Майсеня*

# Слова пра брата

*З усёй нашай сям'і, хто ведаў яго ад нараджэння, я засталася адна. Сёння я перабіраю ў памяці свае ўспаміны, гляджу сямейны альбом і з жахам усведамляю, што і ўспаміны, як тыя здымкі, рассыпаюцца на фрагменты. І баюся, што мне не ўдасца адказаць вычарпальна на адно вельмі цяжкае пытанне: як з'яўляюцца асобы з такой сілай характару, з такой сілай перакананняў, якім быў мой брат? Але я ўпэўнена, што адказ у значнай ступені трэба шукаць у нашай сям'і — яе маралі і стылі жыцця.*

## Пачатак

Пачну з нашага пачатку — з нашых бацькоў. Бясспрэчна, гэта нейкая найвышэйшая сіла звяла двух настолькі маральных людзей, якімі яны былі.

Наша маці паходзіла са Стаўбцоўшчыны. Маладзенькай настаўніцай роднай мовы пачынала свой працоўны шлях на Нясвіжчыне, у вёсцы Вялікая Ліпа, дзе і было наканавана сустрэцца з нашым бацькам. Але не адразу. Як расказваюць, у маладосці яна была вельмі прыгожай і стройнай, добрай і строгай. Недахопу ў жаніхах не адчувалася. Маці ўспамінала мне пра магчымасць цудоўных партый, да прыкладу, з афіцэрам (маёрам), які на той час меў усё і абяцаў ёй яшчэ болей. Але гэта было не тое, што патрэбна было яе душы.

Яе душа выбрала палітычнага вязня, які пасля сямі гадоў вярнуўся на Радзіму з уральскіх лесараспрацовак. Праз тры месяцы пасля іх сустрэчы мой бацька перавёў сваю выбранніцу праз вуліцу (яна кватаравала ў хаце насупраць). Гэта здарылася летам 1954 года. Ёй было 22, яму — 31 год. Да гэтага шчаслівага моманту нашаму бацьку трэба было яшчэ перажыць польскую і нямецкую акупацыю і...

У студзені 1947 года са студэнцкай лавы Гродзенскага пединстытута яго перасадзілі на лаву падсудных. Сутнасць абвінавачвання тыповая для таго перыяду — у беларускім нацыяналізме. Але нават і ў той страшны час амаль паўтары сотні аднавяскоўцаў не пабаяліся падпісацца, каб заступіцца за яго. Не дапамагло...

Бацька быў асуджаны на 8 гадоў і сасланы на Урал. Ён вярнуўся толькі пасля смерці Сталіна. Фізічна знясілены, але не зломлены духам. Яго чакала збяднелая бацькоўская хата. Уся гаспадарка была канфіскавана разам з яго арыштам, а наступныя гады бацькі працавалі толькі на пасылкі для сына і хадайніцтвы наконт вызвалення.

Бацька вярнуўся ў адным фрэнчы з грубага сукна і з невялікім чамаданчыкам, зробленым з уральскай драўніны. Усё трэба было пачынаць з нуля і, болей таго, прадзірацца праз негатыў былога арыштанта. Але гэты негатыў існаваў толькі для афіцыйных улад. Аднавяскоўцы ўспрымалі яго як самага адукаванага і культурнага хлопца, які стаў несправядлівай ахвярай рэжыму. З такім уяўленнем і сустрэла яго па вясне наша матуля і не пабаялася злучыць з ім сваё жыццё назаўсёды. Праз год нарадзілася я...

Халодным студзеньскім днём 1959 года я ўпершыню ўбачыла свайго брацiка. Мне было няпоўных чатыры гады, але я надзвычай яскрава памятаю, як маці з бацькам паклалі на ложак пакуначак і як я пасля перабірала пальчыкі і здзіўлялася, што яны такія маленькія-маленькія і жывыя.

Мы пражылі ў вёсцы Вялікая Ліпа да канца 1963 года. Нас было шасцёра (разам з бабуляй і дзядулям), а хата мела сенцы, кухню і даволі вялікі (але адзін) пакой. З гэтага перыяду я памятаю толькі найбольш эмацыянальна вострыя эпізоды. Памятаю, што праз невялікі час пасля з'яўлення Толі я магла яго загубіць, робячы, па маіх дзіцячых меркаваннях, найлепшае. Я ўпарта старалася напоўніць яго роцік зернем, якое сушылася на печы і якое я любіла пагрызці. Добра, што бацькі не спазніліся.

Памятаю таксама, як гарэў уначы наш хлеў і як мяне з падросшым брацікам выцягвалі з хаты, бо ўжо займалася і на ёй салома. Памятаю, як мы стаялі ўбаку, прыціснуўшыся адзін да аднаго, і дрыжэлі. А ўсе мітусіліся, выцягвалі пажыткі і накрывалі страху мокрымі дзяружкамі. А пасля вельмі моцна плакала бабуля, бо трэба было прадаваць карову — нашу карміліцу. Памятаю, што, калі хацелася есці, матуля вельмі часта прапаноўвала мне намазаць для сябе і брацiка свіны тлушч на чорны хлеб, пасаліць і пасыпаць каляндрай або паліць хлеб алеем і пасыпаць цукрам (мусіць, не было іншага выбару). Памятаю, якім цудам для нас, дзяцей, былі моманты, калі бабуля пякла хлеб, а потым студзіла яго , паклаўшы дзесьці вышэй. А Толя ўсё хадзіў і прасіў мяне ўсімі магчымымі пяшчотнымі словамі, каб я дацягнулася і адламала яму кавалачак.

Ён быў надзвычай мілым і спакойным дзіцем. У памяці востра сядзіць шматразовае і шматгалосае штосьці накшталт: "Гэта ж трэба! Такі ж ужо спакойны хлопчык і такая агоньдзяўчынка!" Сапраўды, з таго перыяду ў мяне засталося мноства шрамаў, а ў Толі толькі адзін, ды і той выпадковы.

Тады яму было гады тры, я мяркую. Быў вечар, і маці сядзела над сшыткамі, а Толя ехаў на "коніку". Што гэта быў за конік? Можа, венік або чапяла. Паслізнуўшыся, ён упаў і ўдарыўся аб кант ножкі стала. Ён рассек сабе лобную артэрыю. Гэта было жахліва. Выратавала тое, што бацька не разгубіўся і з ўсёй сілай сціснуў рукамі рану, за што яго не пераставаў затым хваліць вясковы фельчар.

Напачатку наш тата працаваў у калгасе, затым у пачатковай школе за пяць кіламетраў, а затым у сярэдняй школе, але ўжо за дзесяць кіламетраў ад дому. Кожны дзень зацемна пешшу туды і зацемна пешшу назад. Але гэта была свабода, якая надавала яму сілы. А вечарамі ён сядзеў над падручнікамі англійскай мовы. У 34 гады ён паставіў перад сабою мэту вывучыць англійскую мову, пачаўшы самастойна з нуля.

У канцы 1963 года, за дзесяць кіламетраў ад нашай вёскі, была пабудавана Казлоўская сярэдняя школа. Абодвум бацькам знайшлася праца ў ёй, і мы пераехалі на новае месца жыхарства. Колькі было радасці ад новай двухпакаёвай кватэры!

Толя пайшоў у школу да спаўнення 7 гадоў. Ні ў яго, ні ў мяне не было ніякіх праблем з вучобай. І не магло быць. Культ розуму і імкнення да ведаў быў сфарміраваны нашымі бацькамі надзвычай стала. Ён падтрымліваўся фактычна кожны дзень. Асабліва стараўся ў гэтым тата. Для яго гэта (як я зразумела пазней) было сутнасцю існавання. З'яўляючыся чалавекам надзвычай вялікіх патэнцыяльных магчымасцяў, ён не змог рэалізаваць іх з-за вайны і рэпрэсій. Але жыццё мела рэальны працяг — гэта дзеці і іх магчымыя перспектывы. Спрыялі нашаму сур'ёзнаму стаўленню да вучобы не толькі гутаркі на гэтую тэму, але і жывы прыклад бацькоў. Яны самі працягвалі вучыцца і вучыцца. Наш бацька атрымаў дзве вышэйшыя педагагічныя адукацыі (адну з іх па англійскай мове). і, што найбольш прыемна, стаў адным з найлепшых настаўнікаў у Нясвіжскім раёне (яго вучні мноства разоў перамагалі на раённых алімпіядах).

Брат вучыўся надзвычай лёгка і рабіў заданні вокаімгненна. Для яго не было канкурэнтаў у класе. Бясспрэчна, існавала вялікая небяспека ў адсутнасці грунтоўнасці нашых ведаў, бо мы вучыліся ў сельскай школе. Пачатковыя класы ўвогуле былі малакамплектныя, гэта значыць адзін настаўнік у адным пакоі адначасова навучаў першы і трэці або другі і чацвёрты класы. Разумеючы гэта, бацькі ўвесь час "падкідвалі" нам штосьці сваё для разважанняў.

У старэйшых класах Толя канчаткова вызначыўся з профілем далейшага навучання. Ён выбраў англійскую мову і перакладчыцкі факультэт Мінскага інстытута замежных моў. Праўда, разумеючы, якую высокую планку хоча ўзяць сын (калі ўлічваць асаблівую элітарнасць гэтага факультэта на той час), бацькі паспрабавалі адгаварыць яго. Але зрабіць гэта было ўжо немагчыма. Анатоль надзвычай рана сфарміраваўся як асоба, якая ведае, чаго хоча, якая можа ставіць перад сабой цяжкія мэты і дасягаць іх. І ён стаў працаваць. Непарыўна і глыбока. Лагічным вынікам гэтага стала кожнагадовая перамога на раённых алімпіядах і перамога на абласной. Сельскі хлопчык абыходзіў сталічных аднагодкаў са спецшкол. Пасля сканчэння школы з залатым медалём ён бліскуча вытрымаў уступныя экзамены, здзівіўшы прыёмную камісію грунтоўнасцю сваіх ведаў.

Да характэрных асаблівасцяў асобы Анатоля патрэбна дадаць таксама яго адкрытасць, чэснасць і смеласць. З самага дзяцінства не існавала такой цаны, якой можна было б яго падкупіць. Ён быў пазбаўлены хітрасці. Ён не баяўся прызнацца ў сваіх дзіцячых праступках нават тады, калі яго чакала пэўная форма пакарання. З дзіцячага перыяду я памятаю толькі адзін момант (мяркую, ён быў адзіны), калі Толя замоўчваў праўду. Гэта тычылася дзяўчынкі, якая яму падабалася ў другім класе. Для яе ён таемна забраў мае розныя дзіцячыя ўпрыгожанні і не прызнаўся. Вось і ўсё...

Чэсным і смелым чалавекам Толя застаўся да канца сваіх дзён. Яго думку, яго пазіцыю, яго меркаванне немагчыма было купіць ні за якія грошы і ні за якія пасады. І немагчыма было запалохаць. Гэта быў сапраўдны мужчына. І тут я зноў мяркую, што акрамя Божага дару істотнае значэнне мае ўсё ж сям'я.

І маці і бацька былі людзьмі адкрытымі, з уласнай думкай, уласнай пазіцыяй і з абвостраным пачуццём справядлівасці. Для нашага таты не менш за хлеб патрэбна была і праўдзівая інфармацыя. Кожны вечар ён чакаў сустрэчы з тымі радыёстанцыямі, якія маглі сказаць гэтую праўду. Наша матуля чэснасць і справядлівасць разумела, у прыватнасці, як служэнне роднай мове. Нават у тыя часы татальнага здзеку над носьбітамі беларускай мовы яна ніколі і нідзе не адмаўлялася ад яе — гэта была прынцыповая пазіцыя. Мы ніколі не назіралі хітрыкаў бацькоў, яны ніколі не заклікалі нас прыгнуцца ў імя пэўных выгод. Я настойліва старалася ўспомніць хоць адзін эпізод, дзе б яны адгаворвалі ад чэснага і смелага ўчынку. Успомніла толькі адзін. Гэта тычылася ўжо дарослага і самастойнага Анатоля. Ён працаваў на тэлебачанні і па сваёй ініцыятыве вырашыў выехаць на месцы баявых дзеянняў у Нагорным Карабаху і Абхазіі, каб данесці да беларускага гледача праўдзівую інфармацыю. Тады бацька настойліва адгаворваў яго ад гэтага небяспечнага ўчынку і ўжываў усе магчымыя аргументы. Але змяніць намеры сына было немагчыма. Гэта было характэрна для Толі — рабіць усе справы да канца з поўнай аддачай.

Мне хочацца зноў вярнуцца ў перыяд дзяцінства майго брата, каб прасачыць яшчэ адну лінію яго бытнасці. Дзесьці да 10 гадоў Толя быў надзвычай хваравітым хлопчыкам. Бясконцыя прастуды, ангіны, бранхіты, запаленні лёгкіх... Нават на фотаздымках, зробленых у летні перыяд, можна бачыць яго ў шапачках, з-пад якіх выглядае хусцінка. У гадоў 10—11 штосьці падштурхнула яго (тут я мяркую, што не бацькі) паставіць перад сабой мэту фізічнага аздараўлення. Хутчэй за ўсё ён сам усвядоміў, што далей так нельга. І пачалася праца! Штанга, гіры, перакладзіна, бег, закальванне. Штодзённа. Мы ўсе здзіўляліся яго настырнасці, а ён дужэў на вачах. Брат выхоўваў сваю фізічную сілу і вынослівасць. Але самае дзіўнае ва ўсім гэтым, што разам з фізічным самавыхаваннем пачынаў сталець яго характар і змяняцца тэмперамент. Ён стаў эмацыянальны і камунікабельны. Толя ўваходзіў у цяжкі падлеткавы перыяд. Цяжкасць зносінаў з ім палягала ў тым, што навязаць пэўны (у тым ліку і слушны) план дзеянняў было немагчыма. У гадоў чатырнаццаць гэта была ўжо сфарміраваная асоба з моцным характарам (дай бог усім дарослым мужчынам!). Я не памятаю нічога такога, што называецца дрэннай звычкай. Я ніколі не бачыла Толю з цыгарэтай. Мне здаецца, што гэты "грэх" прайшоў міма яго і ў дзяцінстве. У яго не было куміраў, фотаздымкамі якіх падлеткі выклейваюць пакоі. Брат ішоў сваім шляхам.

**(Заканчэнне на 2-й стар,)**

